Ідзе падпіска на газеты і часопісы на першую палову 2015 года.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

№ 80 (3923)

14 кастрычніка 2014 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

**НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА**

*Борис ЖЕЛИБА, профессор, доктор экономических наук*



## Союз «по понятиям»

### Царский подарок

Как известно, в результате так называемого налогового маневра, заключающегося в снижении Россией экспортных пошлин на нефть и нефтепродукты и с увеличением в качестве компенсации налога на добычу природных ресурсов, Беларусь могла потерять в следующем году, по словам А.Лукашенко, 1 миллиард долларов. Белорусский правитель с этим смириться не мог, ведь следующий 2015 год — год президентских выборов. И если российский и казахстанский парламенты договор о Евразийском экономическом союзе (ЕАЭС) уже дружно ратифицировали, то белорусский демонстрировал готовность проявить строптивость и отложить это дело на неопределенный срок. Путин этого допустить никак не мог. Для него проект евразийской интеграции — это решающая ступень восстановления былого величия России в границах СССР. Начинать очередные "терки" с единственным, по сути, верным союзником сегодня, когда страна осталась практически в полной изоляции от цивилизованного мира, для России будет полная "жесть". И Путин, который до этого торговался с белорусским руководством за каждый миллион долларов, вдруг то ли испугался шантажа партнера отложить ратификацию договора в долгий ящик, то ли красиво отпраздновал в Сибири свой день рождения, то ли на фоне санкционной автаркии Запада и мировой обструкции решил "гулять, так гулять", сделал Лукашенко царский подарок. Москва и Минск договорились о том, что в качестве компенсации потерь от российского налогового маневра экспортные пошлины на белорусские нефтепродукты с 2015 года будут целиком зачисляться в белорусский же бюджет. На радостях белорусский парламент тотчас же ратифицировал договор.

### Голова все равно болит...

Покупая беспошлинную российскую нефть, белорусские нефтезаводы в 2013 году уплатили за экспортируемые нефтепродукты в российский бюджет 3,3 млрд долларов. Лукашенко был рад тому, что уже выторговал у Путина на следующий год. А именно, чтобы из этих уплачиваемых России объемов 1,5 млрд долларов пошлин остались в 2015 году в белорусском бюджете. Под этим соусом, собственно, и был подписан договор о ЕАЭС. Но теперь, при условии, что Россия обещает поставить в следующем году Беларуси не менее 23 млн тонн нефти, ожидается, что в белорусский бюджет поступит не менее 3 млрд долларов пошлин от экспорта нефтепродуктов. Естественно, это с лихвой перекрывает 1 млрд потерь от повышения цен на нефтяное сырье в результате налогового маневра. Теперь за финансирование предвыборной кампании белорусскому бессменному президенту можно не опасаться.

А вообще, беспокоиться есть о чем. В 2015 — заключительном году пятилетки, которая, надо заметить, полностью провалена по основным социально-экономическим показателям, Беларуси надо погасить внешних заимствований на сумму свыше 4 млрд долларов. А разве не может болеть голова от того, что инфляция с начала года достигла 13,4%, а в пересчете на год — 20,1%. ВВП не растет больше 1,5—1,6%. Из запланированных 4,5 млрд долларов прямых инвестиций на чистой основе в экономику за полугодие пришло лишь 1,3 миллиарда. Обещанная средняя зарплата в 1000 долларов кажется недосягаемым рубежом. Золотовалютные резервы постоянно на нижних пределах — 6 млрд долларов в международном измерении на 1 сентября 2014 года. Для их пополнения необходимо постоянно занимать. А на горизонте внешних кредиторов не видно. И тут так привалило!

### Не развяжется ли пупок?

Путину приходится постоянно умасливать своих партеров по ЕАЭС. Но сегодня не то время для России, чтобы разбрасываться миллиардами "зеленых". Сами российские аналитики признают, что экономика страны под усилившимся влиянием западных санкций движется по кризисной траектории. Не без участия США и Саудовской Аравии мировые цены на российскую нефть скатились до 92 долларов за баррель, потеряв с июня 7%. Это серьезно снижает экспортную выручку страны и больно бьет по бюджету в виде сокращений поступлений от вывозных таможенных пошлин. Девальвация российского рубля приняла обвальный характер. Курс доллара пробил психологические 40 рублей, а евро — 50 рублей за денежную иностранную единицу. За три месяца доллар укрепился на 19%, что стало рекордом среди мировых экономик. Инфляция превысила 8% в годовом выражении. Уже в сентябре она превысила годовой прогноз и обновила трехлетний максимум. Сегодня долги российских корпораций перед отечественными банками составляют 450 млрд долларов в эквиваленте, а совокупные валютные обязательства банков перед иностранными финансовыми институтами — более 580 миллиардов.

По оценкам российских СМИ, из страны только в этом году вывели больше 200 млрд долларов. Поставки современного западного оборудования заморожены, а доля импорта в российском станкостроении, например, достигает 90%. А тут еще Крым с Донбассом. Страна все отчетливее входит в сферу влияния Китая. Но Путин в отрыве от всякой реальности велел перейти на полное импортозамещение за три года. Пошел "распил" Пенсионного фонда, все больше попыток залезть в "неприкосновенный" Фонд национального благосостояния. Того и гляди, не развяжется ли пупок? Многие россияне начинают вспоминать конец 80-х годов прошлого столетия, когда даже мысль о кончине СССР не приходила в головы советских людей.

***

Понятно, что серьезная поблажка Беларуси от России — не первая и не последняя. Такой уж выходит этот Евразийский союз, где будут наверняка и дальше периодические разборки и многое будет решаться "по понятиям" на уровне личных отношений правителей.

**СЛЫШАЛИ?**

## Отопление минчанам включат на следующей неделе

*Коммунальщики должны быть готовы организовать включение отопления в жилых домах уже на следующей неделе.*

Такое заявление сделал в понедельник на оперативном совещании председатель Мингорисполкома **Николай Ладутько.** *"К концу недели ожидается похолодание. В субботу, воскресенье прогнозируются заморозки. И коммунальные службы должны быть готовы организовать включение отопления в жилых домах уже на следующей неделе",* — сказал Николай Ладутько.

Отопление в социальных учреждениях столицы включили 3 октября. Согласно правилам, тепло потребителям первой группы начинают подавать при установившейся в течение пяти дней среднесуточной температуре ниже 10 градусов. Для жилфонда отопительный сезон наступает после того, как в течение пяти дней среднесуточная температура не поднимается выше 8 градусов.

**НАДВОР'Е**

## Даставайце парасоны

*На гэтым тыдні ў Беларусі чакаецца дажджлівае надвор'е. Акрамя таго, сіноптыкі папярэджваюць, што ў краіне пахаладае да 3—5 градусаў цяпла днём.*

Але сёння, у аўторак, тэмпература паветра яшчэ будзе заставацца камфортнай — +16...+18 градусаў. Аднак цёплы паўднёвы вецер прынясе і павышэнне вільготнасці. І калі ў аўторак, згодна з прагнозам нашых сіноптыкаў, дождж магчымы "месцамі" і "часам", то ўжо з серады ён можа быць сталым, з невялікімі перапынкамі.

"Суцэльная воблачнасць" і "магчымы дождж" — самыя папулярныя характарыстыкі надвор'я на другую палову тыдня ў Беларусі. Да выхадных, 18—19 кастрычніка, паўднёвыя ветры зменяцца паўночнымі, і з імі ж панізіцца тэмпература. Так што беларусам трэба будзе даставаць цёплую вопратку: начамі чакаюцца замаразкі, а днём слупок тэрмометра з цяжкасцю будзе ўзнімацца да +5.

**КРЫМІНАЛ**

## Гамяльчанін не вярнуў пазыку знаёмаму, а той падарваў гранатай яго лецішча

*Выбух на адным з лецішчаў пад Гомелем прагрымеў у ноч на 20 верасня. У той жа дзень Гомельскім раённым аддзелам Следчага камітэта была распачата справа па артыкуле "Хуліганства".*

Падчас аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў міліцыя даведалася, што да выбуху мае дачыненне неаднаразова судзімы жыхар Гомельскага раёна, які раней быў удзельнікам злачыннай арганізацыі "Пажарнікі".

Высветлілася, што такім чынам затрыманы хацеў "правучыць" былога кампаньёна па бізнесе.

Прычынай канфлікту стала тое, што кампаньён не вярнуў грошы. Прыператрусе па месцы жыхарства затрыманага канфіскаваны пісталет-кулямёт "Agram-2000" з глушыцелем і 20 патронамі. Узбуджана крымінальная справа за незаконныя дзеянні ў дачыненні да агнястрэльнай зброі, боепрыпасаў і выбуховых рэчываў.

**ВІНШУЕМ!**

## 14 кастрычніка — Дзень маці



*Ніл ГІЛЕВІЧ*

## Маці

*Я ўзыходжу на двор, я кажу ёй: "Са святам!" —*
*І цалую знаёмыя родныя вусны,*
*І бяру пад руку, і іду з ёй у хату,*
*Дзе ад прыпечка б'е дух гарачы капусны.*
*Я гляджу ў яе вочы, што свецяцца шчасцем,*
*Гладжу рукі сухія, прапахлыя зеллем,*
*І хілюся да сэрца... А трэба б упасці*
*Перад ёю — нядужай, сівой — на калені...*
*Вочы маці! У доўгія зімнія ночы*
*Вы над намі вясёлымі зоркамі ззялі,*
*Вы ў нясцерпнай дрымоце зліпаліся, вочы,*
*І ўсё ж усміхаліся нам, забаўлялі...*

*Рукі маці! Вы ў працы не зналі прынукі,*
*Вы насілі штогод мазалі, як бабіны,*
*Вы аж нылі увечары, мілыя рукі,*
*Спавіваючы нас перад сном галубіным.*
*Сэрца маці! Наш боль быў тваім, не іначай,*
*Сорам наш ты насіла вялізарным горам,*
*Кропля ж кожная радасці светлай дзіцячай*
*Напаўняла цябе, разлівалася морам...*
*А цяпер ёй — адно б на сынка наглядзецца...*
*Жаль, і горыч, і боль мне душу працінае:*
*Як жа позна, як позна — любімыя дзеці —*
*Мы няўдзячнасць сваю разумець пачынаем...*

**БЕЗ КАМЕНТАРЫЯЎ...**

*Васіль РАМАНАЎ:*

## «Мы зараз нейкая купка людзей, якая жыве сваімі інтарэсамі...»

У мінулыя выхадныя ў Мінску адбыўся справаздачна-выбарны з'езд Партыі БНФ. Старшынёй зноў абраны **Аляксей Янукевіч.** Чакалася, што выбары партыйнага кіраўніка пройдуць безальтэрнатыўна, але ў апошні момант сваю кандыдатуру на пасаду старшыні прапанаваў актывіст з Гомеля **Васіль Раманаў.**

У сваім выступленні ён заявіў, што не мае добра распрацаванай праграмы і не спадзяецца на абранне старшынёй, але вылучае сваю кандыдатуру для таго, каб выказаць занепакоенасць тым, што партыя "дэградзіруе": *"Я прашу не прыдзірацца да гэтага слова. Але мы зараз нейкая купка людзей, якая жыве сваімі інтарэсамі. І насельніцтву мы робімся ўсё менш і менш цікавымі. Канечне, гэта можна спісаць на дзейнасць КДБ, ФСБ, ЦРУ і Масада. Але гэта будзе ненатуральна. Трэба разабрацца ў сябе і ў сабе. На маю думку, тут вялікае значэнне мае тое, што мы неяк адышлі ад сваіх каранёў. Мы ствараліся як партыя нацыянальная, якая ў першую чаргу абараняе нацыянальныя інтарэсы. Інтарэсы нават не народа, а нацыі".* Васіль Раманаў (ён, дарэчы, працуе ўрачом) заклікаў зрабіць так, каб першаснымі ў дзейнасці партыі сталі пытанні нацыянальныя, а не агульныя пытанні дэмакратыі.

У выніку за Янукевіча прагаласавалі 113 дэлегатаў з'езда, за Раманава — 18, па невядомых прычынах 23 дэлегаты не ўдзельнічалі ў галасаванні.

Пра атмасферу мерапрыемства лепш за ўсё сведчаць здымкі... Як кажуць, каментарыі тут залішнія.





**ТЭМА ДНЯ**

*Уладзімір НЯКЛЯЕЎ*



## Пра адзінага і адзінства,

### або Чым мы гатовыя ахвяраваць дзеля Беларусі?

Прэзідэнцкія выбары 2015 года сапраўды ставяць беларускую дэмакратычную апазіцыю перад выбарам: альбо яна ўдзельнічае ў гэтай палітычнай кампаніі на прапанаваных ёй умовах і ў чарговы раз публічна прызнае тым самым сваё бяссілле перад сістэмай татальнай фальсіфікацыі, створанай беларускім рэжымам, альбо спрабуе актыўна рэжыму супрацьстаяць. Спосабам такога супрацьстаяння падчас выбараў традыцыйна з'яўляецца беларуская Плошча, якая ў сённяшняй палітычнай сітуацыі стварае перадумовы не толькі для ўнутраных рэпрэсій, але і для вонкавага ўмяшання.

Што рабіць у такіх умовах беларускай дэмакратычнай апазіцыі? Дзеля захавання "стабільнасці", змяншэння рызыкі страты незалежнасці краіны кансалідавацца, як прапаноўваюць адны, з уладай? Не прымаць у выбарчай кампаніі, як прапануюць іншыя, ніякага ўдзелу? Маўляў, лепш абысці гэты рызыкоўны, небяспечны адрэзак нашага гістарычнага шляху неяк бокам, перацярпець, перамаўчаць гэты час, а далей паглядзім...

Баюся, што нічога добрага не ўбачым.

На гістарычным шляху Беларусі не было нерызыкоўных, бяспечных адрэзкаў. Адзін з іх якраз і пачаўся з прыходу да ўлады Лукашэнкі, з усталявання цяперашняга рэжыму, з глумлення над нацыянальнай ідэяй, на падмурку якой пачынала будавацца незалежная Беларусь. Адмова ад духоўных прыярытэтаў, адвечных нацыянальных каштоўнасцяў, якія ва ўсе часы вызначалі сутнасць кожнага народа, прывяла грамадства да маральнага распаду, крызіснага стану. І толькі спыніўшы гэты распад, змяніўшы стан грамадства, можна разлічваць на тое, што Беларусь захаваецца як незалежная дзяржава, а грамадзяне гэтай дзяржавы — як беларускі народ.

Каб перамагчы, трэба змагацца. Не за саміх сябе, не за задавальненне асабістых амбіцый, а за ідэю. За абвешчаныя прынцыпы. За свабоду, дэмакратыю, правы чалавека, што пакуль для бальшыні нашага грамадства — пустыя словы. Задача апазіцыі — напоўніць гэтыя словы зместам.

Як? Толькі праз дзеянні. Таму важна — ХТО будзе адзіным кандыдатам ад дэмакратычнай апазіцыі, але яшчэ важней — ШТО, прадстаўляючы апазіцыю, ён будзе рабіць? І паколькі абмеркаванне гэтага ключавога пытання відавочна зацягнулася, я прапанаваў на нядаўняй сустрэчы лідараў апазіцыйных структур два сцэнарыі ўдзелу ў прэзідэнцкіх выбарах. Альтэрнатыўныя, бо ў апазіцыйным асяродку відавочна выяўлены два падыходы: удзел і байкот. Апошні не можа даць ніякага выніку ў ягоным "канапным" варыянце, як было на парламенцкіх выбарах 2012 года. Вынік магчымы толькі пры варыянце актыўным, а гэта значыць, што ўсё ж праз удзел — і вось сцэнарый такога ўдзелу.

Для большасці нашага грамадства пустыя, бязважкія не толькі словы *свабода, дэмакратыя,* але і слова *мараль,* напоўніць зместам якое можна толькі праз маральныя ўчынкі. Менавіта такім учынкам у тых абставінах, якія сёння склаліся, можа быць вылучэнне адзіным кандыдатам у прэзідэнты ад дэмакратычных сіл таго палітыка, чыя адданасць названым прынцыпам несумнеўная. Грамадзяніна, які дзеля свабоды Беларусі ахвяруе асабістай свабодай. Чалавека, не зламанага шматгадовым зняволеннем і вартага не толькі нашай павагі, але і нашых дзеянняў, якія павагу нашу даказваюць. Палітвязня Мікалая Статкевіча.

Асноўнае пярэчанне супраць гэтага: ЦВК не зарэгіструе такога кандыдата. Хутчэй за ўсё — так. Але ЦВК не зможа перашкодзіць правядзенню палітычнай кампаніі за рэгістрацыю Статкевіча. За вызваленне палітвязняў і свабодныя выбары.

Як гэтую кампанію праводзіць, хто за яе павінен адказваць? З досведу ведаю: калі ўсе, значыць — ніхто. Для эфектыўнага правядзення такой кампаніі апазіцыя павінна вызначыцца з яшчэ адным кандыдатам, "дублёрам" Статкевіча. Менавіта праз яго павінна быць даведзена ўмова рэжыму: альбо вызваленне палітвязняў і свабодныя выбары, альбо актыўны байкот выбараў дэмакратычнай часткай грамадства. Такім "дублёрам" для ўдзелу ў выбарчай кампаніі можа быць любы апазіцыйны палітык, які прэтэндуе на ролю адзінага кандыдата. Аднак мандат ягоны ў якасці кандыдата мусіць быць абмежаваны. Пры рэгістрацыі Мікалая Статкевіча другі кандыдат павінен адмовіцца ад далейшага ўдзелу ў выбарах, а пры адмове ў рэгістрацыі Мікалая Статкевіча — правесці агітацыйную кампанію з заклікам да актыўнага байкоту і таксама зняць сваю кандыдатуру да пачатку датэрміновага галасавання. Гэта трэба прапісаць, замацаваць у рашэнні Кангрэса — і ўсе ўдзельнікі выбараў павінны прызнаць дырэктыўнасць, абавязковасць такога рашэння.

Зразумела, прапанаваны сцэнарый удзелу ў выбарах патрабуе поўнай кансалідацыі, узгодненасці дзеянняў усіх апазіцыйных структур. Гэта азначае, што беларускія дэмакратычныя сілы мусяць, забыўшыся на ўсе рознагалоссі, стварыць нарэшце рэальна дзейную сістэму маніторынгу парушэнняў заканадаўства, назірання за ходам галасавання і кантролю за падлікам галасоў. Калі ўлада хоча выйграць — хай выйграе сумленна, у прысутнасці назіральнікаў, якія маюць права патрабаваць адкрытага пераліку галасоў. Пры выкананні гэтых умоў дэмакратычная апазіцыя будзе абавязана прызнаць перамогу любога кандыдата: як свайго, так і кандыдата ўлады. І гэта таксама павінна быць запісана ў рашэннях Кангрэса.

Свабодныя выбары, як нішто іншае, могуць паспрыяць умацаванню суверэнітэту краіны. Яны рэзка змяншаюць, практычна здымаюць магчымасць развіцця падзей па ўкраінскім сцэнарыі. Фальсіфікацыя ж вынікаў выбараў стане не толькі нагодай для іх непрызнання ў свеце, але і падштурхне саму ўладу ў рукі найнебяспечнага сёння праціўніка, які прыкідваецца верным сябрам.

Уладзе даецца магчымасць узважыць: што чаго варта?..

Зрэшты, апазіцыі таксама.

На нядаўнім з'ездзе Партыі БНФ старшыня руху "За свабоду" Аляксандр Мілінкевіч сказаў, што "адзіны кандыдат — не панацэя". У гэтым я з ім згодны. Важней за адзінага — адзінства. Дзеля адзінства дэмакратычных сіл я гатовы адмовіцца ад прэтэнзій на ролю адзінага кандыдата, пра што і заявіў на тым жа з'ездзе Партыі БНФ. Мы проста абавязаны паступіцца асабістымі амбіцыямі дзеля дасягнення агульнай мэты — гэта не такая ўжо вялікая ахвяра. А вось мэта ў нас сапраўды вялікая: свабодная, незалежная, дэмакратычная Беларусь.

Народная Воля http://www.nv-online.info 14 КАСТРЫЧНІКА 2014 г.

ЧУЛІ?

## Папа Рымскі баславіў з'яўленне ў Мінску тэалагічнай акадэміі

***Папа Рымскі Францыск** баславіў з'яўленне ў Мінску Тэалагічнай акадэміі імя Святога Яна Паўла ІІ. Пра гэта гаворыцца ў інтэрв'ю мітрапаліта Мінска-Магілёўскага арцыбіскупа **Тадэвуша Кандрусевіча** на афіцыйным сайце Рыма-каталіцкай царквы ў Беларусі.*

Мітрапаліт Кандрусевіч у інтэрв'ю распавядае аб сваёй размове з пантыфікам, якая адбылася ў Ватыкане ў кулуарах ІІІ надзвычайнай сесіі Сінода біскупаў. Ён паведаміў Папе Францішку аб рашэнні заснаваць у Мінску тэалагічную акадэмію, якая прызначана як для падрыхтоўкі святароў, так і для свецкіх людзей. *"Папа вельмі зацікавіўся гэтым праектам і сказаў, што баслаўляе гэту справу",* — адзначаецца ў інтэрв'ю.

Тадэвуш Кандрусевіч лічыць, што ў цэлым ўдзел у сесіі Сінода дае магчымасць кантактаваць з кіраўнікамі розных ватыканскіх ведамстваў.

Як паведамлялася, на пазачарговым пасяджэнні Канферэнцыі каталіцкіх біскупаў Беларусі быў прыняты тэкст статута вышэйшай духоўнай навуковай установы "Тэалагічная акадэмія імя Святога Яна Паўла ІІ". Галоўнай мэтай акадэміі з'яўляецца падрыхтоўка спецыялістаў з вышэйшай адукацыяй розных ступеняў і навуковых работнікаў вышэйшай кваліфікацыі, у тым ліку святароў, для рэлігійнай дзейнасці Рымска-каталіцкай царквы ў Беларусі. Гаворка ідзе пра навучанне ў сферы тэалогіі, а таксама кананічнага права, гісторыі, філасофіі, рэлігіязнаўства, СМІ, замежных моў і іншых дысцыплін у адпаведнасці з нормамі РКЦ.

Канферэнцыяй каталіцкіх біскупаў Беларусі прынята рашэнне звярнуцца да адпаведных дзяржаўных органаў для дзяржрэгістрацыі новай вышэйшай духоўнай навучальнай установы.

ЗДАРЭННЕ

## Спроба самаспалення ў Лідзе

*Мужчына спрабаваў такім чынам скончыць жыццё самагубствам.*

Здарэнне адбылося раніцай у нядзелю. У рэанімацыю Лідскай цэнтральнай раённай бальніцы прывезлі мужчыну са шматлікімі апёкамі галавы, рук, шыі, пярэдняй часткі грудной клеткі.

Як інфармуе "Интэрфакс-Запад", апёкі ён атрымаў пры спробе суіцыду: абліў сябе бензінам і падпаліў. Мужчына ўчыніў гэта па месцы свайго жыхарства.

ВІНШУЕМ!



## Шчасця вам!

**Былы палітвязень, гісторык Зміцер Дрозд ажаніўся. Ягонай абранніцай стала Вікторыя Паўлючук.**

**Дзмітрый Дрозд — гісторык-архівіст, аўтар кнігі "Землеўласнікі Мінскай губерні 1861—1900". Пасля Плошчы-2010 быў асуджаны за ўдзел у "масавых беспарадках" на тры гады калоніі ўзмоцненага рэжыму. Выйшаў на волю ў жніўні 2011 года.**

ВЫКЛІК

## Ці пагодзіцца ўдзельнічаць у дэбатах дэпутат Шаўцоў?

Член Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па ахове здароўя, фізічнай культуры, сямейнай і маладзёжнай палітыцы, а ў нядаўнім мінулым галоўны ўрач сталічнай паліклінікі №34 **Дзмітрый Шаўцоў** выказаўся за ўвядзенне сістэмы аплаты наведвання дзяржаўных паліклінік.

Актывісты кампаніі "Народны рэферэндум" **Юрась Губарэвіч** (намеснік старшыні ПАГА "Рух "За Свабоду"), **Андрэй Дзмітрыеў** (намеснік кіраўніка грамадзянскай кампаніі "Гавары праўду!") і **Ігар Лялькоў** (намеснік старшыні Партыі БНФ) звярнуліся да дэпутата Шаўцова з прапановай правесці публічныя дэбаты па гэтай балючай для насельніцтва тэме і накіравалі яму адкрыты ліст:

*"Дзмітрый Яўгенавіч!*

*Паколькі адно з пытанняў, якое некалькі дзясяткаў тысяч грамадзян Беларусі хацелі б вынесці на агульнанацыянальны рэферэндум, сфармулявана наступным чынам: "Ці згодны вы, што ў дзяржаўных установах адукацыі і аховы здароўя ўсе паслугі грамадзянам Беларусі павінны аказвацца бясплатна?", а Вы, мяркуючы па ўсім, з'яўляецеся апанентам такога пункту гледжання, мы прапануем Вам правесці публічныя дэбаты па гэтай тэме.*

*Мы лічым, што з Вашага боку ў такіх дэбатах маглі б удзельнічаць Вы самі, а таксама Вашы памочнікі і/або іншыя дэпутаты Палаты прадстаўнікоў, якія падзяляюць Ваш пункт гледжання па праблеме платнасці або бясплатнасці абслугоўвання грамадзян Беларусі ў дзяржаўных медыцынскіх установах. З боку кампаніі "Народны рэферэндум" у дэбатах гатовы ўдзельнічаць прадстаўнікі арганізацый-ініцыятараў кампаніі, у тым ліку кваліфікаваныя спецыялісты ў галіне медыцыны.*

*Што тычыцца фармату і пляцоўкі для правядзення дэбатаў, мы пакідаем права іх выбару за Вамі. Гэта магла б быць, напрыклад, дыскусія ў межах грамадскіх слуханняў па праблемах медыцынскага абслугоўвання, якія праводзяцца кампаніяй "Народны рэферэндум" у розных гарадах Беларусі. Таксама гэта могуць быць відэадэбаты на партале tut.by, сайце naviny.by, на любым з тэлевізійных каналаў альбо дыскусія за круглым сталом, матэрыялы якой будуць апублікаваны ў любым дзяржаўным ці недзяржаўным друкаваным ці інтэрнэт-СМІ па Вашым выбары, альбо любы іншы фармат, які Вы прапануеце.*

*Адзінай умовай з нашага боку з'яўляецца публічнасць дадзенага мерапрыемства. Мы глыбока перакананы, што грамадзяне Беларусі павінны атрымаць магчымасць ацаніць аргументы і контраргументы прыхільнікаў розных падыходаў да такога важнага для ўсіх нашых грамадзян пытання. Гэта дапаможа ім сфарміраваць уласны пункт гледжання па гэтай праблеме, што будзе садзейнічаць далейшаму росту іх грамадзянскай самасвядомасці. Мы шчыра спадзяёмся, што Вы, Дзмітрый Яўгенавіч, таксама падзяляеце нашу перакананасць".*

Пакуль адказу ад дэпутата Шаўцова актывісты не атрымалі. "Зварот даслалі па пошце заказным лістом. Час у Дзмітрыя Шаўцова яшчэ ёсць, бо па законе на адказ грамадзянам чыноўнікі і адказныя асобы маюць месяц. Так што пачакаем..." — адзначыў у каментары "Народнай Волі" Андрэй Дзмітрыеў.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

СИТУАЦИЯ

## Пролетели...

*Десятки (а может,и сотни) клиентов, обратившиеся в столичную турфирму "Нероли", остались у разбитого корыта.*

Как говорится, ничто не предвещало беды. В прошлом году минчанка Наталья, пожелавшая отдохнуть на море в Израиле, обратилась в столичную турфирму "Нероли". Купила путевку, отдохнула на славу. В этом году, следуя принципу "от добра добра не ищут", решила снова провести отпуск в Израиле и снова — через "Нероли". В марте и июне внесла предоплату, но, когда настало время улетать на отдых, оказалось, что директор фирмы Ольга Ивановская вне зоны доступа. Ушла в небытие с деньгами.

А вот печальная история другой клиентки — **Татьяны НАЗАРОВОЙ,** которая тоже решила приобрести путевки на отдых в Израиль в этой же компании.

*"15 марта с мужем обратились в "Нероли", чтобы взять путевки,* — рассказывает Татьяна. — *По раннему бронированию получалась 1425 долларов с человека, без него — примерно 1960. Заключили договор, внесли аванс — 2 тысячи долларов, нам дали чеки и программу тура. Не было даже намека на обман. В июне директор Ольга Ивановская позвонила и сообщила, что нужно заплатить остальную сумму, что мы и сделали 30 июня. В июле в Израиле начались военные действия, я заволновалась, но руководитель турфирмы успокоила: мол, на войну вас никто не повезет, можете поменять тур. Что я и сделала. Решили вместо Израиля отправиться в Грецию, вылет — 23 сентября. По электронной почте мне прислали анкету, которую нужно было заполнить для получения мужем шенгенской визы. 27 августа мы отвезли документы и паспорт, нам обещали перезвонить. Проходит три недели — тишина. На звонки директор фирмы перестала отвечать, лишь изредка присылала успокаивающие СМС-сообщения. Типа: "Извините, перезвоню завтра". "Завтра" растянулось до бесконечности. За 10 дней до вылета я пошла в компанию. Все закрыто. Коммерсанты из соседних офисов рассказали, что таких обманутых, как я, уже предостаточно. При этом, как оказалось, в мае продавали туры в Израиль уже по тысяче долларов. Я запаниковала, отправила Ивановской сообщение, что собираюсь обращаться в органы. Та, правда, паспорт мужа отдала и заверила, что вернет и деньги. Мол, кто-то там ее подвел, она отдаст деньги из своих сбережений. "Не надо мне ваших, — отвечаю. — Мои где?" После этого человек снова исчез. Послала в Израиль запрос, чтобы узнать, были ли забронированы номера в отеле на наши фамилии. Оттуда пришел ответ: "Нет". С тех пор Ивановская на связь не выходит, денег никто не возвращает. Обратились с заявлением в Советский РУВД Минска, там сказали, что найти директора фирмы не могут, хотя ее мобильный телефон в зоне доступа. После этого не только я, но и другие обманутые клиенты обращались в департамент туризма Министерства спорта, были в налоговой инспекции Советского района. По некоторой информации, 30 сентября учредитель "Нероли" (а это дочь Ольги Ивановской) подала заявление о приостановлении деятельности фирмы. Объявят себя банкротом, а имущества нет. Только вот куда наши деньги подевались? Ведь счет идет, насколько я понимаю, на десятки обманутых людей".*

Корреспондент "Народной Воли" тоже позвонил и Ольге Ивановской, и ее дочери, но в ответ были лишь длинные гудки. Визит в офис (а это маленький павильон в торговом центре "Силуэт") тоже успеха не принес. Все закрыто, соседи говорят, что не видели никого уже около месяца. Тем временем на форуме onliner.by нашел еще одно любопытное сообщение:

*"Здравствуйте! Я коротко о турфирме "Нероли"... Людей кинули на очень большие суммы, обещая поездки в Израиль и так далее... Минимум тысяча долларов с человека, а таких под сотню.... Знакомых, друзей... Большинство надеется и ждет, что деньги вернут. Очередная пирамида. Мы тоже пострадали... Правда, сумма у нас не такая большая — всего 300 долларов. Покупали в подарок родителям тур выходного дня в санаторий. А когда они туда приехали, оказалось, что санаторий с турфирмой "Нероли" не работает уже 3 месяца. Сейчас собираемся идти в суд, милицию, в Общество защиты прав потребителей. В общем, не собираемся спускать на тормозах это дело".*

Мы обратились за комментарием в ГУВД Минска.

— Насколько известно, сейчас по этим фактам уголовный розыск проводит проверку, — рассказал пресс-секретарь столичной милиции **Александр ЛАСТОВСКИЙ**. — Прежде чем вести речь об уголовном преступлении, надо сначала установить, был ли мотив обмана. Или это стечение обстоятельств, когда человек не может вернуть деньги. То есть: или был умысел, или его не было. Нужны конкретные факты. Поэтому и проводится расследование, по итогам которого все станет ясно.

Итак, ситуация такова, что руководители фирмы, даже не снизошедшие до того, чтобы открыто рассказать своим клиентам, что произошло на самом деле, где-то затихарились с деньгами, а милиция проводит проверку, которая и установит — с умыслом у людей отняли сбережения или без умысла. Впрочем, клиентам злополучной турфирмы от этого не легче. Их больше волнует другой вопрос: отдых уже сгорел синим пламенем, не сгорят ли и деньги?

Так что точки в этой истории расставлять рано, мы будем следить за развитием событий...

**Алесь СИВЫЙ.**

РЭГІЁН

## Але ж гэта не каньяк...

*На некаторых прадпрыемствах канцэрна "Беллегпрам" у Брэсцкай вобласці захоўваецца прадукцыя, выпушчаная яшчэ ў 2012 годзе. Гэты факт быў агучаны на пасяджэнні калегіі Камітэта дзяржаўнага кантролю Брэсцкай вобласці.*

Кошт складскіх запасаў на прадпрыемстве "Дываны Брэста", напрыклад, больш як у 16 разоў перавышае аб'ём сярэднямесячнай вытворчасці. У ААТ "Брэсцкі панчошны камбінат" — амаль у 9 разоў, на пінскім прадпрыемстве "Палессе" — у 3 разы.

МОДЕРНИЗАЦИЯ

## Чем готов рискнуть чиновник ради карьерного роста?

*Чиновники рассказали, как они относятся к существующей системе и что думают о реформе государственного аппарата — по заказу информационного офиса "Беларусь в фокусе" проведено исследование "Белорусский госсектор: ценности, ожидания и восприятие реформ".*

*Исследование включало 12 фокус-групповых дискуссий от 8 до 10 участников в каждой: представителей государственных предприятий и государственных служащих среднего и низшего управленческого звена, прочих профессий и сфер деятельности. География исследования — жители Минска, Гродно, Бреста, Могилева, Бобруйска, а также городское население Гомельской и Витебской областей.*

### Сокращений чиновники не боятся

Выяснилось, что занятые в госсекторе высоко ценят социально-экономическую "стабильность": отсутствие риска увольнения, стабильную достойную заработную плату, уважительное отношение к их труду со стороны начальства. Исключение составляет лишь крайне небольшая группа в основном молодых людей. Они готовы пожертвовать стабильностью ради увеличения уровня дохода.

— Для руководящих сотрудников госпредприятий стабильное место работы важнее, чем возможность повышения дохода. Это делает их "заложниками" работы на государство. А вот чиновники считают себя незаменимыми специалистами, на которых есть спрос, — отмечает один из авторов исследования аналитик Белорусского института стратегических исследований **Александр Автушко-Сикорский.**

Чиновники уверены: даже если и лишатся кресла, то так или иначе смогут найти работу в другом ведомстве или в частном секторе.

"Я могу из этой сферы в другую пойти — и поэтому мне не страшно. Сокращения как бы не предвидится, но я готова к этому", — ответила на неудобный вопрос во время дискуссии в фокус-группах госслужащая Наталья.

Впрочем, чиновники в малых городах крепче держатся за свое место, чем в крупных. Ведь они имеют достаточно хороший уровень жизни по сравнению с остальным населением. Да и статус их выше, а другую работу найти в провинции сложно.

### Престиж упал. Да и зарплата не очень

Сократить избыточные полномочия госслужащих — так недавно определил глава государства Александр Лукашенко следующий шаг в реформе системы госуправления, отметив успешность первой фазы — уменьшения количества чиновников.

Однако сами чиновники недавнее сокращение госаппарата почти не заметили — оно прошло для них безболезненно: кто хотел, тот ушел, смог устроиться.

"Если и были сокращения, то либо предлагали равнозначную должность, либо были выплаты какие-то, которые устраивали людей", — охарактеризовала изменения структуры госаппарата участница одной из фокус-групп.

На самом деле нередко сокращались вакансии, некоторые сотрудники перешли в другие ведомства или даже были повышены в должности. Оставшихся работать в госаппарате не устраивает лишь повышение нагрузки: работу, которую "раньше делали несколько человек, теперь приходится выполнять одному".

А что касается избыточных полномочий, то, в отличие от руководителей госсектора, для которых то, что они делают, "просто работа", чиновники действительно чувствуют свой особый статус".

— Свою профессию чиновники воспринимают как общественно важную и значимую, — отмечает второй автор исследования, аналитик BISS Елена Артеменко.

Однако уровень своих доходов госслужащие считают недостаточным в сравнении с частным сектором.

"Лет 10 назад на госслужбу у нас было престижно попасть. Зарплаты были, в принципе, нормальные, как-то благодарности были конкретные. Но с годами все поменялось. Заработная плата на уровне республики — мало то есть получаем. В реальном секторе экономики мы же знаем, как замы директоров, директора предприятий зарабатывают там, это на порядок выше", — поделилась наболевшим участница одной из дискуссий Наталья.

И чиновники, и сотрудники госпредприятий указывают на низкие возможности для реализации собственных способностей и творческого потенциала на работе: "инициатива наказуема".

Чиновники не могут высказать свое мнение и повлиять на изменения, которые им приходится внедрять в работу, поскольку управленческие решения в системе госслужбы "спускаются сверху" без учета опыта кадров и локальной специфики.

"Это формирует определенный уровень фрустрации относительно их социального положения", — делают вывод исследователи.

### Кресла только для своих

По оценке экс-депутата Палаты представителей Национального собрания **Ольги Абрамовой,** госаппарат страны строится на кровнородственных связях, широком круге взаимовыгодных услуг в различных ведомствах и лояльности. Эксперт убеждена: не желая терять годами нарабатываемые и внедряемые в сферу цепочки "своих" людей, чиновники не будут предпринимать попытки изменить систему госуправления.

Участники фокус-групп тоже часто говорили о существовании клановости и кумовства в госаппарате, что затрудняет приход на работу людей со стороны. По их мнению, переезжать в другой город крайне затруднительно из-за того, что некому оказать поддержку на новом месте, а сотрудник даже с высокой квалификацией никому не нужен из-за отсутствия связей.

Кроме того, карьерный рост зачастую упирается в то, что начальник "сидит до конца" даже после пенсии.

### Пожертвовать стабильностью ради карьеры?

Что такое реформы, чиновники понимают по-своему: не как преобразования с определенными целями, а как постоянный процесс изменений законодательства и условий функционирования госаппарата, к которым им все время приходится адаптироваться.

— Умение приспосабливаться к новым условиям они воспринимают как профессионализм, но отмечают, что это отнимает много времени и усилий, — говорит Елена Артеменко.

Некоторые участники дискуссий упоминали, что постоянно меняется законодательство. И пока по цепочке сверху-вниз доведут до работников, что эти изменения означают, нижнее звено работает на свой страх и риск. По их мнению, вышестоящие органы, принимая решение об изменении процедур, не понимают, что происходит на нижнем уровне и мешают работать.

Одна из целевых групп проекта "Реформ", который является возможностью и площадкой для налаживания контактов и установления взаимопонимания между государством и независимыми экспертами, — власть.

Исследование "Белорусский госсектор: ценности, ожидания и восприятие реформ" позволило определить, как чиновники видят реформы и как относятся к ним. Ведь зачастую реформы не внедряются или не работают из-за сопротивления на уровне функционеров в госаппарате. Какие реформы их не напугают?

— Сотрудники госсектора могут позитивно отреагировать на меры, повышающие их "уверенность в завтрашнем дне": внедрение обучающих программ, долгосрочных контрактов, расширение социальных программ, — считает Александр Автушко-Сикорский.

По его мнению, занятые в госсекторе могут позитивно отнестись к внедрению системы найма и продвижению по службе, основанной на достижениях и заслугах (result-oriented management), а не на клановости и кумовстве.

— Для чиновников более привлекательно выглядят изменения в госуправлении, учитывающие специфику работы на нижнем и среднем уровнях, а также мнение работников на местах, — считает аналитик BISS.

Исследователи также полагают, что чиновникам должны быть предложены меры, исправляющие дисбаланс "нагрузка—зарплата" при должностном повышении: дебюрократизация и снижение рабочей нагрузки и/или больший рост заработной платы, а также повышение престижа профессии.

**Алина МАШКОВА.**




СТОП-КАДР

*Беларуская вышыванка зараз стала асабліва модным трэндам — з нацыянальным арнаментам вырабляюць маладзёжную вопратку, аксесуары, хатні тэкстыль, робяць татуіроўкі. Унесці свой уклад вырашылі і аўтаўладальнікі — у Мінску заўважаны незвычайны "вышываны" Volkswagen Golf.*

*Размешчаны на капоце Golf арнамент — не проста даніна модзе. Гэта свайго роду абярэг.*

***Беларускія праваабаронцы, палітыкі, грамадскія актывісты пачалі кампанію салідарнасці з Паўлам Вінаградавым. Хлопец стаў рэкардсменам па адсідках і затрыманнях. Агулам ён мае больш за 200 сутак адміністрацыйнага арышту за два гады. На мінулым тыдні Паўла адправілі за краты яшчэ на 15 сутак нібыта за нецэнзурную лаянку. Дэмакратычныя актывісты лічаць, што ўлады аказваюць на Паўла беспрэцэдэнтны ціск з-за яго палітычнай пазіцыі.***

**КРЫК ДУШЫ**

*Святлана ВІНАГРАДАВА:*

# «Хопіць хлусіць!»

*Ужо нельга не заўважыць, што Паўла Вінаградава ўлады адкрыта цкуюць. Праз усе выпрабаванні разам з Паўлам ідзе ягоная жонка Святлана. Вось яе аповед пра тое, што адбываецца.*

— Супрацоўнікі міліцыі ходзяць да нас, як на работу. Прычым мы з суседзямі гэтую тэму не абмяркоўваем, але ўсё роўна гэта непрыемна. У нас не працуе дамафон, дык звоняць суседзям і просяць адчыніць. Неяк мы чулі, як суседка проста крычала: “Што вы ўсё ходзіце і ходзіце сюды?! Раней там п’янтосы жылі, дык вас было не дачакацца, колькі разоў вам званілі! А тут і клікаць не трэба!” А другая суседка распавяла нам, што ёй званілі і цікавіліся намі. Запытвалі, ці бывае ў нас шумна, ці заўважалі за намі нейкія асацыяльныя паводзіны. Гэта, канешне, непрыемна. Але значна горш тое, што Паўла не пакідаюць у спакоі.

— **Не пакідае пачуццё страху за яго?**

— Шчыра кажучы, калі ён адбывае арышт, то я ўпэўнена, што там з ім нічога не здарыцца, бо менш за ўсё супрацоўнікі ізалятара на Акрэсціна зацікаўлены, каб там у яго пачаліся нейкія праблемы са здароўем. Значна горш тое, што сітуацыя ўсё напаляецца і напаляецца. За два апошнія месяцы 40 сутак арышту — гэта не жарты. У іх, напэўна, ёсць нейкі план, але мы не ведаем яго дэталяў. Я не ведаю, чым гэта можа скончыцца. Паўлу казалі, каб ён з’язджаў з Мінска. Так і казалі, адкрыта, што, калі ён з’едзе, то ад яго адчэпяцца. Але я ўсё роўна не веру, што яны адразу адчэпяцца.

— **Няма жадання наведаць каго-небудзь з кіраўніцтва МУС і паразмаўляць пра гэта?**

— У міліцыі ўвесь час прыкрываюцца пратаколамі аб тым, што ён нібыта лаяўся матам. Ніколі яны не прызнаюць, што пратаколы ліпавыя, што гэтае “паляванне” звязана з нейкімі палітычнымі падзеямі. Абавязалі выконваць гэтую работу начальніка інспекцыі Маскоўскага раёна **Мікалая ЛУЖЫНСКАГА** і яго намесніка **Аляксандра КУР’ЯНОВІЧА**. Я разумею, што яны цкуюць Паўла не па сваёй волі, але хачу заклікаць іх заставацца людзьмі, жыць і працаваць сумленна. Хопіць хлусіць!

**Любоў ЛУНЁВА.**

*Для даведкі: Святлана і Павел Вінаградавы ажаніліся 22 ліпеня 2011 года, калі Павел адбываў пакаранне за ўдзел у дэманстрацыі пратэсту супраць фальсіфікацыі вынікаў прэзідэнцкіх выбараў 19 снежня 2010 года. Святлана не мінчанка. Яны прыехала вучыцца ў Мінск з Барысава, а потым засталася працаваць у сталіцы.*



**САЛІДАРНАСЦЬ**

# Адстаяць правы і годнасць Паўла Вінаградава!

*Па ініцыятыве Аб’яднанай грамадзянскай партыі 10 кастрычніка лідары і прадстаўнікі вядучых палітычных структур сабраліся разам. На парадку дня было адно пытанне — неабходнасць хуткай рэакцыі на правакацыі, якія адна за адной адбываюцца ў дачыненні да маладзёжнага лідара **Паўла Вінаградава.***

Пра сустрэчу і прынятыя на ёй рашэнні распавёў старшыня АГП **Анатоль Лябедзька:**

— Тое, што ўсе адрэагавалі хутка, гаворыць пра тое, што ўсе разумеюць, што насамрэч адбываецца. Гэта не праблема аднаго чалавека, адной сям’і, а закранае літаральна ўсіх і кожнага. Улада не пакідае актывістам вялікага выбару: ці з’язджай з краіны, ці падпарадкоўвайся тым правілам, якія тут існуюць, хадзі па вельмі вузкім калідоры.

Ініцыятыву АГП падтрымалі Беларуская партыя левых “Справядлівы свет”, “Гавары праўду!”, рух “За Свабоду”, Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Грамада), Партыя БНФ, кампанія “За справядлівыя выбары” і іншыя.

**СКАНДАЛ**

# Церковникам не понравилась выставка «Тайны тела»

***В “Минск-Арене” открылась анатомическая выставка “Тайны тела. Вселенная внутри”. Все ее экспонаты — реальные человеческие тела и органы, обработанные методом полимерной пластинации и завещанные для научных целей.***

*“Такое обращение с покойниками вызывает чувство скорби и печали. Человек — это единство тела и души, а посему гуманность, человечность включают в себя и надлежащее отношение к телу человека как до, так и после его смерти. Можно с определенными оговорками и даже компромиссами допустить экспонирование человеческих тел или их фрагментов в специализированном контексте, скажем, для обучения врачей — вроде как при медицинских университетах тоже есть свои экспозиции, и даже бесплатные. Но аншлагов там не наблюдается, насколько я слышал”,* — написал в блоге на сайте агентства “Минск-новости” председатель Синодального информационного отдела БПЦ протоиерей **Сергий Лепин.**

*“Подобные выставки — циничная торговля человеческим телом, неуважительное отношение не только к умершим, но и к живым, в том числе и к самим посетителям. Печально и то, что экспозиция не имеет возрастных ограничений — сюда приводят детей. Принципиально подобные выставки в своей идее не так уж и новы: достаточно вспомнить о Кунсткамере в Петербурге. Зрелище человека, разобранного на органы и жилы, вдохновляло Петра Первого, который радостно скупал за границей целые коллекции... Принципиально новым можно назвать лишь уровень исполнения, который сегодня достигнут в индустрии эксгибитизации смерти”,* — считает Сергий Лепин.

*“Это не образование — это массовое коммерческое шоу, щекочущее нервы. Что может увидеть в трупе человека, пусть и таким филигранным образом препарированном, непрофессионал? Что он может узнать такого, что невозможно узнать другим образом? Что у него останется в мозгу после выставки, кроме „Вау! Круто!”? И все ради чего? А ведь экспонаты — люди! Чьи-то дети, братья, сестры... Организаторы таких выставок говорят, что люди при жизни добровольно завещали свои тела науке. Допустим.*

*Во-первых, какое отношение все происходящее имеет к науке — открытый вопрос. А во-вторых, можно ли это шоу оправдывать лишь одним чьим-то согласием? Давайте вспомним случай с немцем, который захотел быть съеденным заживо. Он написал расписку, добровольность всего происходящего зафиксирована камерой... Слава богу, что, несмотря на протесты некоторых борцов за „свободы”, каннибала осудили. Люди, доведенные до определенного состояния нищетой, болезнями, психическими расстройствами, идеологиями, могут подписать любые бумаги, но освобождает ли это общество от необходимости оставаться общностью людей, а не каких-нибудь зергов* (вымышленная раса компьютерной игры StarCraft)*?”* — вопрошает протоиерей.

Выставка “Тайны тела: Вселенная внутри” имеет феноменальный успех по всему миру — за 7 лет ее посмотрели около 30 миллионов зрителей. В Минск она приехала из Лос-Анджелеса. Организаторы утверждают, что выставка носит образовательный характер. И даже приглашают учителей проводить на ней уроки для школьников.

Всего “Тайны тела” включает около 200 экспонатов: человеческие тела и органы представлены практически в первозданном виде благодаря методу полимерной пластинации. Он заключается в замене всех жидкостей организма силиконом и позволяет сохранить структуру даже самых тонких тканей. Благодаря этому зрители могут увидеть то, что обычно видят только медики и ученые.

— Суть выставки не в том, чтобы пощекотать нервы, а в том, чтобы рассказать, как работает наш организм. Как мы питаемся и дышим, как мы двигаемся. Изучив свое тело, мы сможем лучше заботиться о нем, наша жизнь будет здоровой, долгой и счастливой, — говорит создатель выставки Хайди Пинчелл.

**ФОТАФАКТ**

## *Падвоеная радасць, падвоенае шчасце*




У Мінску прайшоў “Фестываль двайнятак” — мерапрыемства ў рамках выставы-форуму “Мацярынства і дзяцінства”. Да ўдзелу былі запрошаны 30 пар таленавітых і актыўных дзяцей-блізнят дашкольнага і малодшага школьнага ўзросту.

Дарэчы, толькі ў гэтым годзе ў Мінску на свет з’явілася 240 пар блізнят.

**ПАЛІТЫКА**

## *У адну раку двойчы?*

*Партыя БНФ вызначылася з тым, каго з палітыкаў падтрымае пры абранні адзінага кандыдата апазіцыі на прэзідэнцкія выбары 2015 года.*

Вынікі галасавання на партыйным з’ездзе атрымаліся наступнымі:

**Аляксандр Мілінкевіч** — 68 галасоў,
**Мікалай Статкевіч** — 21,
**Алена Анісім** — 20,
**Уладзімір Някляеў** — 14,
**Анатоль Лябедзька** — 1.

Такім чынам, кандыдатам ад Партыі БНФ будзе лідар руху “За Свабоду” Аляксандр Мілінкевіч.

Нагадаем, што Мілінкевіч ужо быў адзіным кандыдатам ад апазіцыі на выбарах 2006 года. Апошнім часам у апазіцыйным асяродку актыўна абмяркоўваліся чуткі, што ён збіраецца сысці на палітычную пенсію, а кандыдатам ад руху “За Свабоду” на гэтых выбарах будзе Алесь Лагвінец. Сам Мілінкевіч гэтыя чуткі не абвяргаў і нават, можна сказаць, падаграваў заявамі накшталт: “Трэба даваць дарогу маладым”. Да таго ж агульнавядома, што ён перанёс некалькі складаных аперацый. Але ў жніўні Мілінкевіч заявіў: *“Я малады, як ніколі. Цэлы месяц адпачываў у Берштах* (гэта ягоная родная вёска. — **Рэд.**)*. Плаваў кожны дзень па 2—3 кіламетры. Галава таксама працуе выдатна. Пакуль што ў людзей дамініруе песімізм у пытанні магчымасці змены ўлады, будзем працаваць, каб змяніць сітуацыю”.*

**ЭКСПЕРТЫЗА**

# Пагроза!

Аргкамітэт па падрыхтоўцы і правядзенні Усебеларускага кангрэса за незалежнасць падтрымаў праект заключэння аб адпаведнасці Канстытуцыі дамовы аб Еўразійскім эканамічным саюзе і вынесе гэты дакумент на разгляд удзельнікаў кангрэса. Такое рашэнне было прынята ў Мінску на чарговым пасяджэнні аргкамітэта кангрэса.

Праект заключэння падрыхтаваў доктар юрыдычных навук, прафесар, заслужаны юрыст Беларусі **Міхаіл Пастухоў** — суддзя Канстытуцыйнага суда першага складу, які захаваў адданасць прысязе і Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

У праекце, між іншым, паведамляецца, што 29 мая 2014 года ў сталіцы Казахстана Астане прэзідэнтамі Беларусі, Казахстана і Расіі падпісана дамова аб Еўразійскім эканамічным саюзе. 9 кастрычніка 2014 года дэпутаты Палаты прадстаўнікоў і члены Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу краіны ратыфікавалі згаданую дамову. У гэты ж дзень кіраўнік дзяржавы падпісаў адпаведны закон аб ратыфікацыі дамовы. Такім чынам выкананы неабходныя юрыдычныя працэдуры для стварэння новага міждзяржаўнага аб’яднання.

Разам з тым у праекце заключэння адзначаецца, што шэраг палажэнняў дамовы ўступаюць у супярэчнасць з агульнапрызнанымі нормамі міжнароднага права, нормамі Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і пагражаюць суверэнітэту беларускай дзяржавы і народа.

Так, артыкул 6 дамовы ўстанаўлівае прыярытэт рашэнняў саюзных органаў над нормамі нацыянальнага заканадаўства, што супярэчыць артыкулу 1 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, артыкулу 1 Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Рэспублікі Беларусь.

Згодна з часткай другой артыкула 13 дамовы, дзяржава можа выйсці са складу ЕАЭС толькі са згоды іншых дзяржаў-членаў. Гэта азначае, што не прадугледжана магчымасць свабоднага выхаду з саюза. Дадзенае палажэнне ўступае ў супярэчнасць з правам беларускай дзяржавы самастойна ажыццяўляць сваю ўнутраную і знешнюю палітыку.

Палітыка паглыбленай інтэграцыі дзяржаў-членаў ЕАЭС, фарміраванне адзінага рынку тавараў, паслуг, капіталу і працоўных рэсурсаў у рамках саюза непазбежна прывядуць да ўстанялявання эканамічнай і іншай залежнасці Беларусі ад больш моцных і развітых дзяржаў-членаў. Намечанае ў перспектыве ўвядзенне агульнай грашовай адзінкі супярэчыць норме Канстытуцыі аб правядзенні на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь адзінай бюджэтна-фінансавай, падатковай, грашова-крэдытнай і валютнай палітыкі.

Пасля прызнання ў далейшым дамовы неканстытуцыйнай яна не будзе мець юрыдычнай сілы з моманту падпісання, гэта значыць з 29 мая 2014 года, падкрэсліваецца ў праекце заключэння.

Сябры аргкамітэта кангрэса звярнулі ўвагу на наступнае. Па-першае, партыі дэмакратычнай апазіцыі пакуль не адрэагавалі на стварэнне ЕАЭС. Па-другое, беларускае грамадства не ведае, якія пагрозы незалежнасці Беларусі нясе ўваходжанне краіны ў ЕАЭС, поўны тэкст дамовы пра яго стварэнне нават не быў апублікаваны ні ў адным з айчынных друкаваных СМІ. Па-трэцяе, гаворка пра эканамічныя выгоды ад стварэння ЕАЭС, што вядзецца ў дзяржаўных друкаваных і электронных СМІ, засланіла галоўную палітычную пагрозу, якую нясе гэты саюз суверэнітэту Беларусі і народу краіны.

Нагадаем, што 30 жніўня быў створаны аргкамітэт па падрыхтоўцы і скліканні Усебеларускага кангрэса за незалежнасць, які мае адбыцца ў краіне ў першай палове снежня.

Сябры аргкамітэта чакаюць ад людзей канкрэтных прапаноў па фармаце кангрэса, яго тэматыцы, месцы і часе правядзення, наконт механізму вылучэння дэлегатаў і збору сродкаў для арэнды памяшкання і на іншыя выдаткі. Свае прапановы і заўвагі жадаючыя могуць даслаць на адрас электроннай пошты niezaleznasc@gmail.com.

**УКРАИНА**



*Александр ФЕДУТА*

# В поисках дефицитного генерала

Вечером 12 октября — в воскресенье — президент Украины Петр Порошенко принял отставку генерала Валерия Гелетея с поста министра обороны.

Официальная причина отставки Валерия Викторовича Гелетея не называется. По словам советника президента и одного из лидеров пропрезидентского предвыборного блока Юрия Луценко, у нового министра будут новые функциональные обязанности. Насколько новыми они будут, в чем отличия от старых и почему назначенный в начале июля министром генерал старому функционалу соответствовал, а новому не соответствует, можно только догадываться. Что и приходится делать.

По новой Конституции президент Украины назначает всего нескольких членов правительства. Министра обороны, министра иностранных дел и главу Национального банка. Плюс представляет кандидатуру на пост генерального прокурора. Отставка каждого может быть объяснена либо его усталостью и болезнями, либо нежеланием президента далее с ним работать, либо формулой “мавр сделал свое дело, мавр может уйти”.

Поскольку Валерий Викторович Гелетей не похож на утомленного солнцем и болезнями человека, остаются две другие причины. Порознь — либо вместе.

Гелетея назначали как антикризисного менеджера военного ведомства на время АТО. Сделал ли этот “мавр” то дело, ради которого его министром и назначали? Скорее всего, нет. Телеканалы и интернет пестрят сообщениями о плохом обеспечении боевых действий. Добровольцы, национальные гвардейцы, офицеры и рядовые наперебой благодарят волонтеров, покупающих на свои деньги теплые вещи, медикаменты, продукты питания. Широкий резонанс получил поступок киевского миллионера Вячеслава Константиновского, продавшего “Роллс-ройс” и перечислившего средства от продажи в помощь добровольческому батальону “Киев”. Но все это делается волонтерами вне зависимости от поддержки со стороны министерства и министра.

Зато при Гелетее стали процветать склоки с добровольческими батальонами. Понятно, что добровольцы не слишком привыкли к армейской дисциплине, но именно им приходится выносить на себе значительную тяжесть решений руководства АТО. Следствием противоречий стала, в частности, скандальная ситуация с “Иловайским котлом”, когда большое число бойцов попало в окружение сепаратистов в силу рассогласованности действий и, как утверждают многие офицеры, несвоевременного приказа к отступлению. А война — это еще и отступление.

Точкой в карьере генерала Гелетея стал его иск в суд против лидера партии “Батькивщина” Юлии Тимошенко о защите чести и достоинства. Дело не в том, что это был иск против недавней узницы, “серебряного призера” президентских выборов. Министр, назначенный президентом, подал иск против лидера предвыборного партийного списка, конкурирующего за голоса с блоком Петра Порошенко. О такой рекламе Юлия Владимировна и мечтать не могла — особенно, если учесть, что особых информационных поводов для пиара президент старался ей не давать. Иск непопулярного министра позволял акцентировать внимание избирателей на ошибках не только министерства, но и верховного главнокомандующего, каковым по должности является президент.

Президент выводы сделал. По словам известного украинского политконсультанта, бывшего депутата Верховной Рады по списку БЮТ Виктора Уколова, “в отличие от своих предшественников-президентов, Петр Порошенко умеет прислушиваться к общественному мнению. Тем более что для формирования негативного отношения к Гелетею после Иловайска были все основания”. Министр ушел — согласно поданному им рапорту. Не сумев сохранить репутацию хорошего министра, Валерий Викторович сохранил хорошие личные отношения с президентом. В данном случае это было важно.

Каким будет новый министр? По мнению Виктора Уколова, “украинской армии нужен армейский генерал с блестящими организаторскими способностями. Ведь министр обороны, по сути, организатор, а непосредственное управление войной осуществляет начальник генерального штаба”. Проблема в том, что армейские генералы с блестящими организаторскими способностями во все времена и во всех странах были большим дефицитом. Неслучайно, например, Наполеон удостаивал высших званий и наград не только полководцев, выигрывавших сражения, но и выдающихся штабных руководителей, а Николай I назначил министром финансов России именно армейского интенданта Егора Канкрина, имевшего опыт управления финансами во время военных действий — и не ошибся в выборе.

Где найти сегодня такого “блестящего организатора”, чтобы он обладал одновременно репутацией в глазах военных и стал авторитетом для гражданского общества Украины, к мнению которого прислушался бы Петр Порошенко, не известно. Во всяком случае возможный преемник Гелетея — командующий Национальной гвардией Степан Полторак — такими качествами не вполне обладает: нравственный авторитет генерала, по слухам, привозившего курсантов из руководимой им Харьковской академии МВД на Антимайдан, для волонтеров и представителей прессы весьма сомнителен. Но это сырье для табуреток можно привезти из другой страны, а министров приходится строгать из того материала, который под рукой.

*Киев.*

ДИСКУССИЯ

# Так кто же является главным поджигателем войны?

Пишу эти строки потому, что, прочитав статью “За порогом ненависти” С.Букчина от 26 августа 2014 года, я не могу согласиться с некоторыми выводами автора. Сразу хочу оговориться: я человек не такого большого ума, как С.Букчин, не учился в университетах, не владею мастерством писать красноречиво со ссылками на разные исторические события, но и не настолько глуп, чтобы не отличать правду от лжи, хитрость и лукавство от честности и порядочности. Буду говорить о себе как о среднестатистическом гражданине страны, у которого есть свое мнение, и сложилось оно во многом благодаря многолетнему опыту и “Народной Воле”, которую я регулярно читаю.

Так вот, уважаемый Семен Букчин, я не согласен с вашими ответами на поставленные вами же вопросы: “Кто разжег этот страшный костер, кто продолжает подливать в него бензин?” (Имеется в виду война в Донецкой и Луганской областях Украины.)

И вот ваши ответы: “Мне видится, что больше всех дров подложили в него те, кто правил Украиной все 23 года независимости...” Далее: “Свою солидную вязанку хвороста подбросили в этот костер США и понукаемый ими Евросоюз...” А далее ни слова о роли России в этой бойне славянских народов.

Да, я отчасти согласен, что бывшие президенты Украины в какой-то степени повинны в нынешней ситуации на востоке Украины. Повинны, что не создали надлежащую армию, а прежнюю развалили, не создали оборонительную систему для защиты своего суверенитета. Но назовите мне сегодня страну из бывших республик СССР, кроме России и Беларуси, где есть надежная армия. Да и кто мог ожидать от России, которая совместно с Англией и США гарантировала нерушимость границ Украины в обмен на вывод из этой страны ядерного оружия, что она совершит такую подлость?

Лукавите вы, господин Букчин, и по поводу того, что украинцы до Майдана были самые бедные, бесправные и угнетенные, а олигархи их — самые жадные и жестокие. Это можно было бы легко опровергнуть, но я не хотел бы отвлекаться сейчас от главного.

А главное состоит в том, что основным поджигателем этого костра является Россия, а точнее ее Верховный Главнокомандующий. Его высочайшее самолюбие не может простить украинцам киевского Майдана, не может простить бегство ставленника Кремля Януковича, не может простить стремление украинцев в Евросоюз, не может простить их стремление к свободе без коррумпированных чиновников и власти.

Ибо я уверен, что после Майдана с вновь избранным президентом П.Порошенко через каких-то пять-шесть лет Украина превзошла бы Россию по уровню жизни населения. А это для российской власти как красная тряпка для быка, как исторический пример для рядовых россиян.

И вот, используя ослабление властных структур в Украине, низкий экономический и военный потенциал (отчасти вызванный пятимесячным противостоянием на киевском Майдане и российской спекулятивной ценой на газ — по 480 долларов США за 1000 куб. метров на протяжении более чем 20 лет), удачно выбрав момент (триумф на зимней Олимпиаде и т.д.) при помощи своих спецслужб, так называемых зеленых человечков и ошеломляющей пропаганды, за две недели свергли крымское правительство и сварганили “референдум” без всяких наблюдателей и в нарушение всех законов. Результат “референдума” известен. Главный “славянин”, утверждающий, что крымские “зеленые человечки” — это местное население и Россия тут ни при чем, буквально через несколько дней на торжественном собрании по случаю вероломного присоединения Крыма к России вдруг ни с того ни с сего признал заслуги своих военных в крымской кампании и начал раздавать налево и направо ордена и медали, внеочередные воинские звания офицерам и генералам за активные действия в Крыму. Кроме того, более сотни журналистов РФ получили правительственные награды и премии за “объективное” освещение событий на Майдане и в крымской эпопее. Подумать только, какая мерзкая ложь! Хоть бы подождал три-четыре месяца, чтобы люди подзабыли те цирковые трюки.

И вот что мы видим и слышим сегодня по российским телеканалам. Те же заклинания, что никаких российских военных ни в “ДНР”, ни в “ЛНР” нет. Даже когда состоялись задержания российских десантников на территории Украины, а некоторые их сослуживцы были похоронены, даже когда было выявлено около сотни российских танков современной модификации в Донецкой области, а главный военный сепаратист признал, что на их стороне в боях участвуют тысячи российских военнослужащих, Чуркин, Лавров и Путин с пеной у рта доказывают, что Россия не участвует в войне против Украины, что никакой нашей военной техники и военнослужащих там нет, что они беленькие и пушистенькие.

Если вспомнить не такое уж далекое прошлое, подобная махровая ложь со стороны правителей России и их карманных СМИ уже исходила, когда травили Молдову и оторвали от нее Приднестровье, когда громили Грузию и оторвали от нее Абхазию и Южную Осетию, когда уничтожали Чечню, которую ВВС России бомбили так, что Грозный, можно сказать, сровняли с землей, погибли тысячи мирных жителей. Получается так: Россия имеет право на любые антигуманные действия, если вопрос касается ее шовинистических интересов, другим же, отстаивая свою независимость, не позволено ничего.

Все те события подзабылись, а нынешнее поколение их и не знало. Сейчас в Приднестровье, в Абзахии и Южной Осетии расположены российские оккупационные войска — цель, которую ставило перед собой кремлевское правительство, достигнута.

На очереди Украина. Непокорная с непоказным и искренним патриотизмом, она оказалась не по душе кучке авантюристов из Кремля и Белого дома. Я не политик, не военный стратег, но, взглянув на географическую карту, даже школьник седьмого класса сделает вывод: после захвата Крыма и присоединения его к России Крымский полуостров оказался отрезанным от России Донецкой и Луганской областями, получилось своеобразное Приднестровье. Связь, снабжение полуострова может вестись только через Керченский пролив. Для строительства моста или тоннеля под водой необходимы затраты в десятки миллиардов долларов. Вот и стукнуло в голову ВВП: а зачем тратиться? Оторвем от Украины Донецкую и Луганскую области с их углем, черноземными степями, их промышленностью и военными заводами. К тому же Азовское море с главным портом Мариуполем будут наши. А заодно отомстим Киеву за Майдан и соединим Крымский полуостров с Ростовской областью РФ автотрассой М23.

Вот почему Кремлю позарез понадобились Донецкая и Луганская области, в этом вся его кровожадная логика.

Кстати, весной этого года аналогичное происходило и в Одесской области. Цель та же: через Одессу пробиться к Тирасполю, то есть Приднестровью. Все события в Украине созвучны с заклинаниями известного всем Жириновского перед журналистами, когда он орал: “...Украины нет! Восток и юг Украины — это наши территории! Запад Украины отдать венграм, румынам, полякам! Украина — это Киев и две-три области, и все”. Как известно, Жириновский — это не обычная пешка, это язык и рупор Кремля. Об этом же желчно твердят, подумать только, член Общественной палаты при президенте РФ М.Шевченко и некий Д.Фефилов, которые в дополнение ко всему открыто призывают украинскую гвардию повернуть штыки на 180 градусов и идти на Киев свергать “фашистское” правительство. Ну чем не истинные отморозки?!

Я обращаюсь опять-таки к С.Букчину. Неужели Вы об этих вещах не знаете, неужели Вы черпаете информацию о событиях в Украине, как и большинство граждан Беларуси, только из НТВ, РТР, ОНТ? Утверждать, что в разжигании пожара в Украине повинны сами украинцы, Америка и Европа, — это не только заблуждение, это политическое недомыслие, или, еще хуже, синдром путиноида.

Интересуясь украинской темой с момента зарождения Майдана, я прочитал множество статей с десятками различных точек зрения, но по сути никто не пытался высказаться, как потушить этот пожар, как прекратить кровопролитие братьев по расе, по вере, вдруг оказавшихся врагами с чьей-то подачи, забывших о том, что 70 лет назад их отцы и деды плечом к плечу сражались с настоящими фашистами. Сражались и умирали за нас — нынешнее поколение. И трудно сказать, выстояла бы одна Россия в борьбе с фашизмом, если бы не встали на смертный бой с врагом и Беларусь, и Украина, как и многие народы бывшего СССР. Так где же ваша совесть, новоявленные фюреры из Кремля и ваши марионетки А.Захарченко, И.Стрелков-Гиркин, В.Антюфеев, П.Губарев и другие? Как вы смеете убивать детей и внуков тех украинцев, которые сражались и погибали в боях с немецкими захватчиками? Позор всем вам и проклятия жен и матерей убитых вами людей, презрение здравомыслящих и неравнодушных граждан! Вы из-за жадности и жажды оторвать очередной клочок земли готовы убивать всех, кто станет на вашем пути.

В.Путин, Ваш отец воевал, вернулся с фронта инвалидом. А мой отец погиб в боях за Украину. Я думаю, Ваш отец поступил бы так, как Тарас Бульба со своим сыном за то, что Вы кошмарите Украину.

С.Шойгу, Вас все уважали, когда Вы были министром МЧС — спасали жизни людей. Как Вы могли стать перевертышем — министром-убийцей? Уйдите и не позорьте свое честное имя. Езжайте на свою малую родину — в Туву. Уверен, будучи президентом своей Республики Тува, Вы осчастливили бы свой народ.

Я понимаю, что это письмо ни на что и ни на кого не повлияет, а многие скажут, что это бред, и не станут читать. И все же я надеюсь, что его прочтут в российском посольстве в Беларуси и пошлют какую-то информацию в Москву. А потому я хочу продолжить свои размышления.

Каким образом можно прекратить эту безумную жестокую войну? Самый мирный и, на мой взгляд, действенный вариант — следующий.

В связи с агрессией России против Украины президенты Беларуси и Казахстана заявляют о выходе из всех соглашений с ней. Одновременно Европа и Америка вводят такие санкции, которые существенно повлияли бы на экономическую и политическую жизнь России. Перенести проведение в 2018 году чемпионата мира по футболу в другую страну. Я думаю, после этих мер кремлевские стратеги изменили бы свою политику в отношении Киева, а президенты Беларуси и Казахстана вошли бы в историю как миротворцы, достойные звания лауреатов Нобелевской премии.

**А.ГОЛУБНИЧИЙ,**
**житель д.Черемушки Могилевского района.**

ПРАЦЯГ ТЭМЫ

# На ржавым падмурку квітнеючую Беларусь не пабудуеш

Паважаная “Народная Воля”! Прачытаў артыкул Мечыслава Гіруця “Не отпихивайтесь от народа, и он сделает Беларусь процветающей” (“НВ” №74), і ўжо першыя сказы гэтага артыкула падаліся мне надта знаёмымі. Такія словы я неаднаразова чуў ад рознага кшталту афіцыйных ідэолагаў. Як мне здаецца, спадар Гіруць нічога новага не сказаў, толькі паўтарыў даўнымдаўно завучаныя словы камуністычных прапаведнікаў. Праўда, ён мае рацыю, калі прапаноўвае чыноўнікам больш цесна выбудоўваць адносіны з народам.

Але як вырашыць гэтую праблему, калі ў нас адзін-адзіны чалавек раздае чынавенскія пасады ўсіх узроўняў, фактычна прызначае дэпутатаў і гэтак далей. Таму сапраўдных выбараў, як належыць у дэмакратычнай дзяржаве, у нас пасля 1994 года яшчэ не было, а ёсць толькі прызначэнцы. Цытата Карла Маркса “Человеком движет интерес”, нягледзячы ні на што, памойму, вельмі слушная і жыццёвая, ды ў дадзеным выпадку для сённяшняй Беларусі не прымянімая, як для самога Маркса была непрымальнай дыктатура.

Зыходзячы з Маркса, для таго, каб у беларусаў XXI стагоддзя з’явілася асабістая зацікаўленасць у эфектыўных выніках таго, што яны робяць, трэба:

— вызваліць народ ад аўтарытарнага кіравання;

— дамагчыся рэальнай незалежнасці ад расійскага каланіялізму (чамусьці М.Гіруць замоўчвае тое, што фактычна, калі адкінуць фармальныя азначэнні, Беларусь — расійская калонія);

— вярнуць беларусам адабраную родную мову, нацыянальную культуру і гістарычную памяць, бо без гэтага ніяк немагчыма выхаваць свядомага грамадзяніна-патрыёта і тым самым задзейнічаць на карысць грамадства ўвесь чалавечы патэнцыял;

— цвёрда прытрымлівацца прынцыпу змены ўлады (займаць высокую кіруючую пасаду не больш як два тэрміны);

— не на словах, а насамрэч уключыць у дзеянне закон аб падзеле ўлады на заканадаўчую, выканаўчую і судовую.

Спадар Гіруць пражыў нямала на свеце, але так і не зразумеў, што ж сапраўды патрэбна нашаму народу для яго росквіту. На ржавым падмурку квітнеючую Беларусь не пабудуеш. Сёння ж мы бачым, як гінуць эканоміка, культура, навука, разбураецца духоўнасць, практычна выцеснена мова тытульнай нацыі. А спадар Гіруць закалыхвае нас нейкімі містычнымі мроямі аб цудоўным росквіце Беларусі. Няўжо незразумела, што ў сённяшніх варунках выхоўваць чалавечнасць і любоў чынавенства да народа — марная і немагчымая справа. Трэба карэнным чынам мяняць іржавую сістэму, пры якой любы начальнік і начальнічак кіруецца адным памкненнем — як пратрымацца ў сваім крэсле. Ад народа іх лёс не залежыць.

Праз “Народную Волю” хачу пажадаць спадару Гіруцю пражыць яшчэ не адзін дзясятак гадоў і самому шчыра палюбіць свой шматпакутны народ так, як любілі яго Канстанцін Астрожскі, Тадэвуш Касцюшка, Канстанцін Каліноўскі і іншыя героі Айчыны. Так, як сёння любяць Беларусь выдатныя яе сыны Ніл Гілевіч, Зянон Пазьняк і іншыя патрыёты, чые імёны пералічваць можна бясконца. А не гаварыць пра народ па-савецку, як пра безаблічную “людскую масу”... Вось менавіта тады Беларусь і расквітнее. Даўно вядома, што для працвітання краіны ў першую чаргу патрэбны незалежнасць ад чужаземнага ціску і дэмакратыя, а не развагі ў заявах вышэйшага кіраўніка кшталту, што мы, маўляў, ужо “наелись демократии” і таму яе не хочам. Як можна не хацець таго, чаго яшчэ і блізка не бачылі, не адчулі, нават не ўяўляем толкам?

Пакуль Беларусь знаходзіцца пад імперскай далонню суседняй дзяржавы, аб нейкім росквіце нават і гаворкі быць не можа.

**Мікола КАНАХОВІЧ,**
**афіцэр у адстаўцы.**

ТАК ДУМАЮ!

## Замест пустой балбатні

Прывітанне! Вырашыў выказаць сваё меркаванне наконт беларускай мовы, паколькі тэма гэта набыла другое дыханне.

Усе размовы чыноўнікаў аб больш шырокім ужыванні беларускай мовы — пустая балбатня. Адзінае выйсце, якое надасць беларускай мове сапраўды дзяржаўны статус, — гэта перавод на беларускамоўнае навучанне Акадэміі кіравання і факультэта міжнародных зносін. У першую чаргу гэта тычыцца вывучэння замежных моў, якое павінна быць беларуска-англійскім, беларуска-італьянскім і гэтак далей, а не руска-англійскім, руска-італьянскім...

Другое, што можна было б пасправабаваць зрабіць, гэта надаць беларускай статус мовы міжславянскіх зносін. У 2018 годзе ў Белградзе (калі не памыляюся) пройдзе Міжнародны з’езд славістаў. Уся свядомая грамадскасць (гаворка не толькі пра апазіцыю) павінна падрыхтаваць зварот да гэтага з’езда аб наданні беларускай мове такога статусу. Гэта можна патлумачыць тым, што гэта адзіная са славянскіх моў, якой пагражае знікненне ў сваёй краіне.

**Аляксей КАВАЛЁЎ.**

*Мінск.*

ЭХО

## Российское вранье и правда профессора Желибы

В одном из номеров “Народной Воли” опубликована статья доктора экономических наук, профессора Бориса Желибы “Ядерный агрессор XXI века”. Автор клеймит позором омерзительнейшее ежедневное политическое вранье основных телевизионных каналов и газет России. Эти средства массовой информации лживо называют фашистами высокородных борцов за свободу и целостность Украины, а подлых и преступных украинских сепаратистов, холуев Москвы — сторонниками дружбы народов. Но в действительности именно эти сепаратисты являются отвратительнейшими фашистами. Их всячески поддерживает московское правительство. Очевидный факт: российские вояки введены в Крым, Луганскую и Донецкую области.

Желиба справедливо называет нынешнее московское высшее чиновничество ядерным агрессором XXI века. Имея такое страшное оружие, они могут взорвать полпланеты. Вот почему российская общественность должна развернуть широкую кампанию за то, чтобы остановить тех, у кого имперское мышление берет верх над здравым разумом.

В Беларуси много разных экономистов, но большинство из них предпочитает либо не затрагивать острые темы, либо бессовестно лгать. А вот профессор Б.Желиба в своих многочисленных статьях всегда пишет только правду.

**Сергей БОРИСОВ,**
**геолог.**

*Минск.*

СТОП-КАДР

## Вот и лето прошло, осень наступила...

На верхнем снимке справа Анатолий Ивашин, пенсионер, ветеран труда локомотивного депо станции Кричев. Был машинистом. Поймал эту щуку летом. Вес ее 12 килограммов, длина — 1 метр 20 сантиметров. А справа мой внук Владислав, второклассник могилевской СШ №45. Он тоже любит рыбалку.

На нижнем снимке моя жена Валентина с урожаем этой осени.

**Валерий БЫСОВ,**
**ветеран труда.**

*г.Кричев.*





КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

## Пра «карысныя маты» і маральныя страты

**Былы дырэктар ААТ “Мінскабллён” Міхаіл Піліпчук паскардзіўся ў суд на намесніка камітэта па сельскай гаспадарцы Мінаблвыканкама Аляксандра Пляшэвіча, які ў прысутнасці сваіх супрацоўнікаў аблаяў яго мацюкамі. Абражаны Піліпчук так расхваляваўся, што трапіў у бальніцу. За дробнае хуліганства суд аштрафаваў чыноўніка на 300 тысяч рублёў.**

*Няпроста стрымацца ў запале...*
*Чынок дзецюка, як заўжды,*
*Спярша пераконваў, адале*
*Паслаў... ну, вядома куды.*
*Наведніку стала хрэнова,*
*Прыём ён чакаў не такі:*
*Дзяржаўная ўсё ж установа,*
*І раптам гучаць мацюкі.*
*Абражаным людзям управу*
*Шукаць на чыноўніка дзе?*
*Наведнік накрэмзаў заяву —*
*Хай з ім разбярucца ў судзе.*
*І прэса хай вэрхал падыме,*
*Спатоліўшы наш інтарэс.*
*Аднак у закрытым рэжыме*
*Праходзіў судовы працэс.*
*Пабіліся чырванню шчокі*
*Суддзі-маладзіцы, калі*
*Агучваць абразы-”рэчдокі”*
*Праціўнікі распачалі.*
*— Вы ў доказах ведайце меру! —*
*Суддзя абразуміла іх*
*І сунула ў рукі паперу. —*
*Пішыце! Не пляцкайце ўслых!*
*Не толькі маральныя страты*
*Ад лаянкі зведаў ісцец.*
*Здароўе парушылі маты,*
*Яму, так бы мовіць... капец.*
*— Як толькі мне гэты начальнік*
*Душэўную траўму нанёс,*
*Не спаў я, паверце, начамі,*
*Таму і развіўся неўроз.*
*Адкрылася язва адразу,*
*А следам за ёй — гемарой,*
*Не вынесла сэрца абразу —*
*Як трактар, грукоча парой.*
*Прашу пакараць брыдкаслова,*
*Няхай ён прыкусіць язык.*
*І ўвогуле спее выснова:*
*Ці трэба такі кіраўнік?*
*Няхай жа начальству рашэнне*
*Падкажа вось гэты працэс...*
*Адказчык-чынок у кішэню*
*За словам таксама не лез:*
*— Ды мне ўжо нагналі аскому*
*Такія, як ён, вахлакі!*
*Не выправіш клёпкі нікому,*
*Калі не ўжывеш мацюкі.*
*Бо што ні наведнік — тупіца...*
*Дый ведаю я па сабе,*
*Што поспеху нельга дабіцца*
*Без слоў тых на “х” і на “б”.*
*Вось, скажам, тыповы рабочы.*
*Зусім не лайдак ён, але ж*
*Як след працаваць не захоча,*
*Калі ты яго не пашлеш...*
*Такія ж у нас і сяляне.*
*Не скосіцца луг-сенажаць,*
*Работа, так мовіць бы, стане,*
*Калі не нагадваць пра “маць”...*
*Без матаў — я ведаю цвёрда —*
*Усё для нас будзе не ў масць:*
*У спорце не мецьмем рэкордаў,*
*Навука адкрыццяў не дасць,*
*“Сцішкоў” не напішуць паэты,*
*Не створаць карцін мастакі...*
*Дык хай жа “пакрыўджаны” гэты*
*Падзякуе за мацюкі!*
*Пасля перабранкі такое*
*(Падобнай не чула ў жыцці!)*
*Гадзіну ў дарадчым пакоі*
*Суддзя не магла “адысці”.*
*Спазнала маральныя страты*
*І зведала многа пакут.*
*А потым чынок вінаваты*
*Пачуў адпаведны прысуд.*
*Аднак пасля слоўнага бруду*
*Найлепей было б, каб яна*
*Абодвум заместа прысуду*
*Сказала:*
*— Ідзіце вы на...!*

* * *

*Калі завядзёнкаю будзе*
*Судзіцца за бруд з языка,*
*Прысуду ніводнага суддзі*
*Не вынесуць без мацюка...*

РЭЗАНАНС

# Усё чакае свайго часу

Дасведчаны чалавек, які ўважліва сочыць за тым, што адбываецца з правамі чалавека і законнасцю ў часы праўлення Аляксандра Лукашэнкі, прачытаўшы артыкул “Бесправие” ў “Народнай Волі” №77(3920) ад 3 кастрычніка 2014 года, не здзівіцца. Бо сапраўды, часцей за ўсё так і бывае: якія б правапарушэнні ні былі здзейснены міліцыянтамі, калі яны закранаюць не інтарэсы ўладных структур, а толькі шараговых грамадзян краіны, ***“ни служба собственной безопасности МВД, ни прокуратура, ни Следственный комитет в действиях милиционеров нарушений закона не усмотрели”.*** Больш за тое, усімі магчымымі сродкамі выгароджваюць правапарушальнікаў у пагонах.

Да якіх толькі хітрыкаў, выкрунтасаў, бессаромнага ігнаравання фактаў, што мелі месца ў рэчаіснасці і пацверджаны дакументальна, ды іншых недарэчных дзеянняў не даходзяць службовыя асобы са структур дзяржаўнага кіравання, калі беспадстаўна адмаўляюць грамадзяніну ў яго законных патрабаваннях па абароне сваіх правоў, свабод і законных інтарэсаў, што парушаны не толькі міліцыянтамі, але і іншым чыноўным людам! Прыведзены артыкул якраз сведчыць аб гэтым.

Не выключаю, што ва ўяўленні абывацеля, што праводзіць час на кухні з зачыненымі дзвярыма і выключаным святлом, бо глядзіць “Панараму”, праблемы, што ўзнімаюцца ў артыкуле, наогул не існуюць. Бо ў асяродку “міру і стабільнасці ў нашым грамадстве” ён пра гэтыя праблемы і не ведае. Але тыя грамадзяне, для якіх вызначаныя існуючым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь правы, свабоды і законныя інтарэсы не пусты гук, не пагаджаюцца з іх парушэннем і прыкладаюць намаганні для іх адстойвання. Вось толькі вынікі, як і ў Алесі Садоўскай — гераіні артыкула “Бесправие”, бываюць адваротнымі, бо ў цяперашняй Беларусі на абарону простага чалавека закон не працуе.

І што дзіўна, чыноўнікі не баяцца і не думаюць аб адказнасці ў будучым за свае дзеянні, звязаныя з парушэннем закона, хоць даюць грамадзяніну адказы на паперы дзяржаўнага ўзору, пад дзяржаўным гербам, пазначаючы свае пасады, прозвішчы і ставячы свае асабістыя подпісы. Яны не ўлічваюць, што ў грамадзян гэтыя адказы, у якіх утрымліваюцца правапарушэнні чыноўнікаў, надзейна захоўваюцца, чакаючы свайго часу. Будзе ў нас люстрацыя, як ва Украіне, — і ўсе гэтыя дакументы спатрэбяцца. А такі час абавязкова будзе, бо дзяржава не можа рухацца наперд, не ачысціўшыся.

**Эльяш БАНЕЛЬ,**
**інжынер.**

*Мінск.*

